



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12 лютага 2021 года №7 (1346)

18+


# Як бяспечна кіраваць машынай у снегапад

старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## У Беларусі прайшло паўгода з пачатку пратэстаў. Маладзечанцы — пра свае затрыманні

старонка 5

ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# У Маладзечне ўпалі цэны на кватэры


Фота з архіва «РГ».

Для некаторых навіна пра зніжэнне цаны на кватэры набліжае магчымасць атрымаць новае жыллё.

**Такая сітуацыя практычна ва ўсіх гарадах краіны.**

2020 год атрымаўся складаным і для рынку жылля. Продажы кватэр скараціліся, цэны на іх знізіліся ў большасці буйных гарадоў краіны.

У рэгіёнах і ў Мінску ў 2020 годзе асноўная маса попыту на кватэры прыйшлася на першы квартал. Невялікі ўсплёск пакупніцкай актыўнасці адзначаўся ў трэцім квартале.

**Навіна аб поўным прыпыненні крэдытаў на пакупку жылля матывавала многіх ахвотных заскокнуць у апошні вагон – апературна вырашыць кватэрнае пытанне.**

У кастрычніку-снежні без крэдытнага падсілкоўвання рынак зноў адчуў на сабе адток попыту на кватэры.

**У параўнанні з аналагічнымі месяцамі 2019 года колькасць прададзеных кватэр у рэгіёнах скарацілася ў сярэднім на 43–45%.**

Сярод абласных гарадоў скарачэнне наймацней паказала сябе ў Віцебску – на 52%.

**У буйных гарадах сумарны попыт на кватэры скараціўся ў сярэднім на 16%. Наймацней у Маладзечне – на 27% і ў Мозыры – на трэць.**

Традыцыйна двухпакаёвыя кватэры фігуравалі ў здзелках часцей за іншыя.

**Сярэдняя цана за квадратны метр у Маладзечне на снежань мінулага года – 649 долараў, што на 10 лютага па курсе Нацбанка складае больш за 1687 рублёў.**

За год цана ўпала на 2,8%.

**Паводле Кацярыны ВАРСАК, realt.by.**

## ДАІ нагадвае правілы для кіроўцаў і пешаходаў падчас снегападу

**З-за складаных умоў надвор'я, рэзкіх перападаў начных і дзённых тэмператур, галалёду, снегу, снежных заносаў і туманаў ДАІ Маладзечна дае кіроўцам і пешаходам наступныя рэкамендацыі.**

– Абірайце правільную хуткасць руху.

– Абірайце бяспечную дыстанцыю да аўтамабіля, які перад вамі, і бакавы інтэрвал.

– Не абганяйце іншыя аўтамабілі неабдумана.

– Выкарыстоўвайце бліжняе святло фар.

– Не адцягвайце ўвагу за рулём.

– Пазбягайце рэзкага тармажэння.

– Пры пад'ездзе да нерэгуляваных пешаходных пераходаў знізьце хуткасць і прыпыніцеся.

– Кіруйце аўтамабілем толькі пасля добрага адпачынку, з максімальнай канцэнтрацыяй увагі, з упэўненасцю ў сваіх сілах і тэхнічных характарыстыках вашага аўто.

Пешаходам у неспрыяльных умовах надвор'я рэкамендуюць:

– быць асцярожнымі падчас пераходу дарогі;

– пераходзіць дарогу толькі ў вызначаных правіламі месцах;

– пры пераходзе не спяшацца, глядзець па баках;

– у цёмны час не забудзьце абазначыць сябе флікерамі.

**АДАІ Маладзечна.**

## Чытач заклапочаны небяспечным мосцікам праз Нарачанку

ВІЛЕЙКА

**Да нас у рэдакцыю звярнуўся жыхар Вілейшчыны Сяргей. Яго турбуе небяспечны мост праз раку Нарачанку ў аграгарадку Нароча.**

– Мост без парэнчаў. Цяпер ён заледзянелы. А па тым мосце, між іншым, ходзяць людзі, бягуць у школу дзеці. Я звяртаўся да мясцовых уладаў. Яны павесілі чырвона-белую стужку як папярэджанне, каб па мосце не хадзілі. Але ж вы самі разумееце, што чалавек, рызыкуючы, пойдзе па гэтым небяспечным мастку, чым ісці на другі, больш надзейны, калі да яго прыкладна кіламетр, – распавядае вясковец.

**Сяргей звяртаўся да мясцовых уладаў, званіў на «гарачую» лінію, дабіваўся, каб мост адрамантавалі або прыбралі зусім.**

Бо на ім, па словах мужчыны, былі нават смяротныя выпадкі. Кажа, у інстанцыях перанакіроўваюць туды-сюды. А выніку няма.

### Сельвыканкам: Людзі гатовыя адрамантаваць мост. А мы дапаможам

З праблемай мы звярнуліся ў Нароцкі сельвыканкам. Тут адказалі, што аб праблеме ведаюць. Пытанне з мостам трымаюць на кантролі.

– У нас праз Нарачанку ёсць чатыры такія масткі, якія людзі зрабілі самі. Ведаю я і пра мост, пра які ідзе гаворка. Людзі пабудавалі яго для сваёй зручнасці. Па ім хутчэй можна трапіць у цэнтр вёскі. Але ў нас каля ракі зона адпачынку. Летам адпачывальнікі шкодзяць гэтыя масты, – расказала старшыня сельсавета **Алена Абрамчык**.

Па словах старшыні, мост сапраўды вельмі патрэбны людзям. Яна сцвярджае так, бо хадзіла па дамах і праводзіла апытанне. Калі мост знесці, людзі яшчэ больш будуць скардзіцца, кажа старшыня. Таму выйсце адно – рамантаваць.

– Але паколькі людзі пабудавалі мост самі, на балансе сельвыканкама ён не лічыцца. І адпаведна за грошы сельвыканкама мост я рамантаваць не магу.

**Але вясной-летам абяцала дапамагчы з дрэвам лясніцтва, а ў гаспадарцы напілуюць дошак. Людзі самі гатовыя адрамантаваць свой мост.**

Спадзяюся, і грамадзянін, які тэлефанаваў вам, дапаможа з рамонтам, – падсумавала Алена Мікалаеўна.

Па яе словах, цяпер каля небяспечнага мосціка вісіць стужка, якая забараняе па ім хадзіць. Але ж спыняе яна не ўсіх.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Сёлета дабудуюць шматкватэрны дом

## Глядзіце, хто атрымае кватэры і каму павінны даць субсідыі

**ВІЛЕЙКА**

**У Вілейцы сёлета ўвядуць у эксплуатацыю жылы дом на 80 кватэр і пачнуць будаваць яшчэ адзін, паведамляе БЕЛТА са спасылкай на дырэктара ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Вілейскага раёна Сяргея Міхаліка.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Кватэры будуюць для тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

– Будаўніцтва шматкватэрнага дома па вуліцы Гарадзішчанскай завяршаецца. Аб'ект увядуць у эксплуатацыю ў гэтым годзе.

> **Новая пабудова ўключае сорак аднапакаёвых і сорак двухпакаёвых кватэр, якія будуць выкарыстоўваць як сацыяльнае і арэнднае жыллё.**

Таксама там паселяцца людзі, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, па ўказу №240, – распавёў Сяргей Міхалік.

**Таксама ў Вілейцы сёлета пачнуць будаваць дом на 50 кватэр. Цяпер вядуць праектна-пошукавыя работы.**

У 2020 годзе ў Вілейцы для тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, увялі ў эксплуатацыю два 40-кватэрныя жылыя дамы, у тым ліку 17 кватэр арэнднага жылля.

Указ №240 уступіў у сілу ад 7 жніўня 2017 года. Ён рэгламентуе выдачу адрасных субсідый тым, хто стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў, але не ўсім.

Субсідыі на пагашэнне працэнтаў, згодна з дакументамі, выдаюцца:

• ільготнай катэгорыі грамадзян, пералічаных ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6 студзеня 2012 года №13 «Аб некаторых пытаннях аказання грамадзянам дзяржпадтрымкі пры будаўніцтве (рэканструкцыі) або набыцці жылых памяшканняў»;

• дзеючым пракурорскім работнікам і ўжо звольненым з-за ўзросту, стану здароўя, а таксама з-за скарачэння колькасці або штату супрацоўнікаў (у сувязі з правядзеннем арганізацыйна-штатных мерапрыемстваў). Важнае значэнне тут мае выслуга гадоў у органах пракуратуры – не менш за пяць каляндарных;

• малазабяспечаным грамадзянам, якія будуюць або рэканструююць жыллё ў Магілёўскай вобласці.

На пагашэнне асноўнага доўгу і частку працэнтаў субсідыі выдаюцца:

• шматдзетным сем'ям з трыма і больш непаўналетнімі дзецьмі;

• маладым малазабяспечаным сем'ям пры нараджэнні (усынаўленні, удачарэнні) першага і (або) другога дзіцяці;

• дзецям-сіротам і тым, хто застаўся без апекі бацькоў;

• наймальнікам сацыяльнага жылля, якое ім далі як дзецям-сіротам і дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў. Субсідыя можа быць выдзелена, пакуль дзейнічае тэрміновы дагавор найму такога жылога памяшкання.

**Аддзел інфармацыі.**

## У райвыканкаме – новыя прызначэнні

**ВАЛОЖЫН**

**Ад 3 лютага ў Валожынскім райвыканкаме працуюць новы намеснік старшыні і кіраўнік спраў.**

Намеснікам старшыні райвыканкама па будаўніцтве, ЖКГ і праблемах ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС стаў **Дзмітры Протас**.

Дзмітры Мар'янавіч нарадзіўся ў Валожыне ў 1974 годзе. Вучыўся ў Барысаўскім політэхнічным тэхнікуме. Пасля заканчэння працаваў землеўпарадкавальнікам Івянецкага пасвыканкама, быў вядучым спецыялістам аддзела па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванні Валожынскага райвыканкама.

У 2003-м атрымаў вышэйшую адукацыю ў Горацкай сельгасакадэміі. Да 2011 года працаваў намеснікам начальніка раённай землеўпарадкавальнай службы, а да цяперашняга прызначэння займаў пасаду начальніка аддзела землеўпарадкавання райвыканкама. З'яўляецца дэпутатам раённага Савета дэпутатаў 28 склікання, паведамляюць у Валожынскім райвыканкаме.

Кіраўніком спраў раённага выканаўчага камітэта цяпер працуе **Наталля Жукоўская**.

**Яна нарадзілася ў Беразіно, у 2013 годзе скончыла Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва, а сёлета – факультэт Вышэйшай школы кіравання і бізнесу па спецыяльнасці «правазнаўства» Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.**

Наталля Іванаўна пачынала працу ў аддзеле кантролю і справаводства Валожынскага райвыканкама, працавала ў прыёмнай старшыні райвыканкама, затым – вядучым спецыялістам сектара бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці кіраўніцтва справамі. На цяперашнюю пасаду прызначаная з пасады галоўнага бухгалтара групы бухгалтарскага ўліку і справаздачнасці райвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**28 000**

столькі чалавек жыло на Астравеччыне на 1 студзеня 2020 года, згодна з дадзенымі апошняга перапісу.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.02 | 11.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6404 | **2.5783** |
| Еўра | 3.1764 | **3.1256** |
| Злоты, 10 | 7.0698 | **6.9729** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4694 | **3.4912** |
| Грыўня, 100 | 9.4381 | **9.2840** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **3.02** | **10.02** |
| Еўра | 3.1200/3.2200 | **3.1000/3.2000** |
| Долар ЗША | 2.5900/2.6650 | **2.5600/2.6400** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 3.02 | 10.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,57 | **22,57** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,80 | **7,80** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | **6,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,50 | **18,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,90 | **3,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 6,50 | **6,40** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,65 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,99 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Авакада, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,90 | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## З машыны скралі акумулятар, рэгістратар і магнітолу

**ВІЛЕЙКА**
**СМАРГОНЬ**

Пра здарэнне ў Вілейскі РАУС смаргонец паведаміў 31 студзеня. Падрабязнасці расказаў намеснік начальніка РАУС **Мікалай Мягкоў**:

– Жыхар Смаргоні 30 студзеня прыехаў на выхадныя ў вёску да сваякоў. Свой аўтамабіль «Сеат-Кардоба» паставіў на вуліцы каля дома. На наступны дзень выйшаў каля 13 гадзін дня і заўважыў, што нехта пашкодзіў замок пярэдніх левых дзвярэй. Невядомы трапіў у аўтамабіль і скраў адтуль відэарэгістратар «Сяомі» з картай памяці «Самсунг». А яшчэ, ускрыўшы капот, злодзей вынес акумулятар маркі «Аком».

Па словах намесніка начальніка РАУС, кошт скрадзенага – каля чатырохсот рублёў. Вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Крадзеж».

Калі вам нешта вядома пра гэта здарэнне, міліцыя Вілейшчыны просіць тэлефанаваць на нумар **102**.

## З восьмага паверха выпала жанчына

**МАЛАДЗЕЧНА**

Падрабязнасці здарэння расказала афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Пра здарэнне ў міліцыю паведамілі медыкі хуткай дапамогі 2 лютага, увечары.

– Жанчыне 31 год, яна жыхарка Маладзечна. Выпала з дома №13 па вуліцы Будаўнікоў, з восьмага паверха. Пацярпелую шпіталізавалі. У яе – чэрапна-мазгавая траўма і іншыя пашкоджанні, – паведаміла Юлія Крук.

Па папярэдняй інфармацыі, крымінальнага следу ў здарэнні няма.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу на стаянцы загарэлася фура. Уратавалі кіроўцу, які спаў у кабіне

**АШМЯНЫ**

Пра пажар на неахоўнай стаянцы на вуліцы Гальшанскай ратавальнікам паведамілі 5 лютага, каля трох гадзін ночы.

Гарэў аўтамабіль «МАН» 2001 года выпуску. Агонь пашкодзіў аўтамабільнае пярэдняе кола, аўтаномную печку, абшыўку маторнага адсека, тармазныя шлангі.

Выкліканыя спецыялісты выратавалі 43-гадовага кіроўцу, які адпачываў у кабіне. Прычыну высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Махляр прадставіўся работнікам банка і скраў грошы з карткі

**ВІЛЕЙКА**

2 лютага ў міліцыю Вілейкі звярнуўся мясцовы жыхар і расказаў, што невядомы скраў з яго карткі 9090 рублёў.

Падчас разбору ўстанавілі, што 2 лютага, у абед, пацярпеламу патэлефанавалі па вайберы ад карыстальніка з імем «Банк». Невядомы сказаў, што ён работнік банка і завуць яго Аляксей. Махляр сказаў, што зафіксавалі незаконную спробу скрасці грошы з карткі вілейчука. Спытаў у яго, ці рабіў нейкія аперацыі па карце.

– Атрымаўшы адмоўны адказ, махляр прапанаваў перавесці грошы з карткі на бяспечны рахунак, каб захаваць іх, і прадыктаваў дадзеныя гэтага рахунка ў іншым банку, – расказвае намеснік начальніка Вілейскага РАУС Мікалай Мягкоў.

Віляйчук паверыў махляру і праз інтэрнэт-банкінг перавёў грошы на прадыктаваны рахунак. Пасля таго, як размова скончылася, 9090 рублёў вілейчуку не вярнуліся.

– Глядзіце ўважліва, з якога нумара вам тэлефануюць. У дадзеным выпадку ў вілейчука на тэлефоне з'явіўся надпіс «Банк», але званкі паступалі з польскага нумара, – адзначыў Мікалай Мягкоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аварыі пацярпела 16-гадовая пасажырка

**МАЛАДЗЕЧНА**

Падрабязнасці аварыі расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

7 лютага каля паловы першай ночы 26-гадовы кіроўца-маладзечанец на аўтамабілі «Опель-Вектра» ехаў па вуліцы Гарадоцкай у кірунку Вялікага Гасціца. Ён знаходзіўся на другараднай дарозе і не прапусціў «Мазду-626», якая ехала па галоўнай дарозе.

У выніку машыны сутыкнуліся. Пацярпела 16-гадовая дзяўчына-пасажырка «Мазды-626». У яе – чэрапна-мазгавая траўма, удары і раны. Дзяўчыну забралі ў хірургічнае аддзяленне Маладзечанскай ЦРБ.

Матэрыялы – на праверцы ў ДАІ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Тут мог здарыцца пажар.

# Нецвярозы зяць хацеў падпаліць дом цешчы

## Ён сам жыў там разам са сваёй сям'ёй

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пятага лютага каля гадзіны ночы на лінію 102 патэлефанавалі і паведамілі пра падпал прыватнага дома на завулку Першым Сухім.**

Пра здарэнне міліцыянераў інфармавалі ратавальнікі, якія прыбылі на месца інцыдэнту. Але яшчэ да іх прыезду ўзгаранне ліквідавалі пільныя суседзі.

Міліцыянеры адпалу папярэднічала навілі меркаваную карціну таго, што адбылося. Высветлілі, што да падпалу датычны 48-гадовы беспрацоўны гараджанін, раней неаднаразова судзімы за рабаванні, крадзяжы і супраціў міліцыянерам. Фігурант спрабаваў падпаліць дом уласнай цешчы, у якім жыве і сам са сваёй сям'ёй. Апаратычыкі затрымалі падазраванага. Экспертыза паказала ў крыві мужчыны больш за адзін праміле алкаголю. Матывы свайго ўчынку фігурант растлумачыць не змог.

Як высветлілася, падпалу папярэднічала сварка сваякоў на прыватным падворку. Сусед стаў міжвольным сведкам сямейнага скандалу, а пазней і відавочцам таго, як мужчына ўзяў з хлява бутэльку з вадкасцю і абліў фасад драўлянага будынка. Затым паспрабаваў распаліць агонь запальнічкай, аднак яму не ўдалося – мужчыну спыніў сусед.

Праз некаторы час фігурант вырашыў давесці справу да канца. Злачынны дзеянні мужчыны зноў паспрабаваў спыніць сусед. Ён хацеў адабраць у падазраванага запальнічку, у выніку чаго завязалася бойка.

Падчас бойкі паўсюль разлілася гаручая вадкасць з бутэлькі і загарэлася. Тады сусед пераключыўся на тушэнне полымя, спрабуючы закідаць яго снегам. На дапамогу мужчыну прыйшлі іншыя суседзі, яны хутка патушылі агонь. Будынак загарэцца не паспеў.

У выніку здарэння ніхто не пацярпеў. Дзеяннем падазраванага следчыя далі прававую ацэнку, пачалі крымінальную справу, паведамілі ў РАУС Маладзечна.

**Аддзел інфармацыі.**

## Апавяшчальнік спрацаваў, але позна

**МЯДЗЕЛ**

Пра пажар у аграгарадку Нарач (Кабыльнік), у якім загінуў мужчына, выратавальнікам паведамілі 5 лютага ў 20:20. Падрабязнасці расказала інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага РАНС **Ірына Карапецян**.

– Дом быў падзелены на дзве часткі з двума ўваходамі. У адной жыла жанчына-пенсіянерка, у другой – яе 61-гадовы сын. Пажар здарыўся ў той частцы дома, дзе жыў мужчына. Усё памяшканне выгарала знутры, сам мужчына загінуў. У той палове дома, дзе жыла маці, стаяў пажарны апавяшчальнік. Ён спрацаваў тады, калі ў другой палове дома ўжо быў моцны пажар, – паведаміла інспектар.

Прычына пакуль дакладна невядомая. Разглядаюць неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні. Справу будуць разглядаць мядзельскія следчыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мінчанін вырошчваў каноплі ў вёсцы пад Валожынам

**ВАЛОЖЫН**

8 лютага суд Валожынскага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачанні 40-гадовага К. у злачынствах, прадугледжаных часткай 1 артыкула 328, часткай 1 артыкула 329 КК.

Згодна з матэрыяламі следства, абвінавачаны К., наўмысна знаходзячыся ў доме ў адной з вёсак Валожынскага раёна, незаконна пасадзіў і вырасціў не менш як 17 раслін роду канапель, якія ўтрымліваюць асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва. Ён таксама захоўваў тут марыхуану масай не менш за 18,9828 грама.

**Суд прызнаў К. вінаватым у незаконным без мэты збыту захоўванні наркатычных сродкаў і на падставе часткі 1 артыкула 328 КК яму прызначылі абмежаванне волі на чатыры гады.**

Таксама яго прызналі вінаватым у незаконным пасеве і вырошчванні раслін, якія змяшчаюць псіхатропныя рэчывы, у мэтах атрымання наркатычных сродкаў. На падставе часткі 1 артыкула 329 КК яму прызначылі абмежаванне волі на два гады.

У адпаведнасці з часткай 2 артыкула 72 КК па сукупнасці злачынстваў, канчаткова абвінавачанаму К. прызначылі пакаранне ў выглядзе абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу на чатыры гады.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Паводле Генпракуратуры.**

# «З пратакола даведаўся, што крычаў, адмахваўся, упіраўся»

## Праваабаронца Алесь Капуцкі – пра сваё затрыманне 10 жніўня

МАЛАДЗЕЧНА

**Паўгода таму, у першыя дні пратэсту, 10 жніўня мінулага года, на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне затрымалі маладзечанца праваабаронцу Алеся Капуцкага.**




Алесь Капуцкі (злева) ў дзень затрымання.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Вось як Алесь прыгадвае сваё затрыманне:

– Як праваабаронца я павінны маніторыць масавыя мерапрыемствы. Пачаў маніторынг яшчэ 9 жніўня. А 10 жніўня да мяне дайшлі звесткі, што будзе зноў збор на плошчы. Мы з маім калегам-праваабаронцам **Эдуардам Баланчуком** ускінулі камізэлькі з надпісам «Назіральнік», павесілі афіцыйныя бэйджы «Беларускага Хельсінскага Камітэта» і рушылі да плошчы. Тут ужо стаялі пратэстоўцы і сілавікі. Людзі паводзілі сябе мірна, адны ўшчувалі сілавікоў, некаторыя сталі перад імі на каленях, паказваючы свой мірны характар. Ніякай агрэсіі з боку людзей не назіралася.

Па словах Алеся, у функцыі праваабаронцаў уваходзіць фіксацыя неадэкватных паводзін як з аднаго, так і з другога боку. Таму калі сілавікі сталі ісці на людзей, Капуцкі з калегам пачалі весці фота- і відэафіксацыю.

– Калі я апынуўся з тылу сілавікоў, чалавек у белай кашулі паказаў на мяне рукой і мяне затрымалі. Ведаючы з досведу мінскіх калег, што назіральнікаў на масавых мерапрыемствах не затрымліваюць, я ўспрыняў гэта як непаразуменне, але не стаў нічога даказваць і падпарадкаваўся. Тыя, хто затрымліваў, не прадставіліся, а заламалі рукі і павялі да спецтранспарту, – працягвае Алесь.

Яго разам з некалькімі затрыманымі прывезлі ў двор Маладзечанскага РАУС, дзе на асфальце ляжалі людзі. Затрыманых вывелі, паставілі рукамі да сцяны, сталі абшукваць і па аднаму адводзіць.

– Пакуль я так стаяў, да мяне падбег хтосьці з супрацоўнікаў міліцыі, з сілай сарваў маю блакітную камізэльку і кінуў на зямлю, сказаўшы штосьці кшталту: «Назіральнік? Мы яшчэ разбяромся…» Мяне адвялі і паклалі тварам на асфальт, рукі зафіксавалі ззаду будаўнічай сцяжкай. Перыядычна прывозілі новых затрыманых, многія з якіх ужо былі збітыя. Паступова двор запоўніўся ляжачымі на асфальце людзьмі. Мясцовыя міліцыянеры паводзілі сябе строга, але па-чалавечы. Калі ў людзей сталі зацякаць пераціснутыя кайданкамі або сцяжкамі рукі, яны адгукаліся на просьбу аслабіць або памяняць сцяжку. Так было і ў маім выпадку. Калі ж у двары з'яўляліся амапаўцы, усчынаўся суцэльны лямант і мат, а камусьці з няправільна ляжачых перападала дубінкай або ботам.

Пасля адзін з супрацоўнікаў РАУС, развязаўшы рукі, павёў Алеся ў будынак, дзе далі магчымасць заскочыць у прыбіральню. Вярнулі яго ўжо ў іншае месца, бліжэй да выязной брамы. Апоўначы Алеся і яшчэ некалькіх чалавек пасадзілі ў спецтранспарт і павезлі ў Валожын.

У камеры ў Валожыне ўжо сядзелі хлопцы з Ракава і Вішнева. Было ад 11 да 13 чалавек у памяшканні, разлічаным на дзесяць.

– Усе трое з паловай сутак я спаў на бакавой жалезнай кушэтцы для сядзення. Хлопцы падзяліліся падушкай і парай коўдраў. Абыходзіліся там з намі па-чалавечы. Толькі там склалі адміністрацыйныя пратаколы. Прачытаўшы свой пратакол, я даведаўся, што ўдзельнічаў у несанкцыянаваным мерапрыемстве, і са здзіўленнем прачытаў, што, аказваецца, «кричал, отмахивался, упирался ногами и руками». Я напісаў, што з пратаколам не згодны.

Судзілі Алеся разам з яшчэ чатырма сядзельцамі 12 жніўня:

– Усіх завялі ў нейкі пакой з суддзёй, міліцыянерамі, але без сакратара. Суд кожнага займаў прыкладна пяць хвілін. Мне суддзя **Зянько** даў 15 сутак. Але дзякуючы пратэстам супраць гвалту і беззаконня, нас сталі выпускаць. Я выйшаў на волю ўжо 14 жніўня. Аспрэчыў прысуд у абласным судзе. Але яго пакінулі ў сіле, скасаваўшы толькі не адбыты мной тэрмін.

На пытанне, ці дапамагло яму веданне законаў у тыя жнівеньскія дні, адказ Алеся адназначны: марна ў той сітуацыі, у якой апынулася краіна, казаць пра законы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Выйшаў выказаць меркаванне». Маладзечанец – пра жнівеньскія пратэсты і затрыманне

**9 лютага споўнілася паўгода беларускім пратэстам пасля выбараў. Мы пагутарылі з маладзечанцам, якога затрымалі ў жніўні падчас акцый пратэсту.**

Увечары 9 жніўня маладзечанец **Андрэй Дыко** прыйшоў на Цэнтральную плошчу. Яго затрымалі на наступны дзень, 10 жніўня. Ён расказаў «Рэгіянальнай газеце», што адбывалася ў тыя дні.

Тыдзень таму Андрэю Дыко споўніўся 21 год, ён – хакейны фанат. 9 жніўня Андрэй мэтанакіравана прыйшоў на маладзечанскую плошчу вечарам пасля прэзідэнцкіх выбараў. Ён падзяліўся, што ніколі не мог уявіць, што ўлады пойдуць на сілавое падаўленне мірнага пратэсту.

Андрэй кажа, што ведаў, што адбывалася ў краіне ў той вечар. Яшчэ 9 жніўня ён вяртаўся з Брэста ў Маладзечна, і па ўсёй трасе стаялі пасты супрацоўнікаў міліцыі. Яны выбарачна спынялі машыны і правяралі дакументы. За інфармацыяй маладзечанец сачыў у тэлеграм-каналах і, прызнаецца, што ў той дзень ганарыўся за народ.

– Дагэтуль перад вачыма эпізод, калі насупраць прыпынку «Палац культуры» супрацоўнікі АМАПа «агрэлі» маладога хлопца дубінкамі з двух бакоў па корпусе. І ён адразу ж рухнуў на зямлю, а яны яго ўзялі пад рукі, закінулі ў бус і з'ехалі.

Андрэя затрымалі наступным вечарам каля 18 гадзін. Маладзечанец успамінае, што на плошчы было няшмат людзей, але многа супрацоўнікаў міліцыі і вайскоўцаў.

– Я сядзеў на лаўцы са сваім сябрам. Да нас падышоў супрацоўнік міліцыі, два вайскоўцы з сабакам. Мы былі знаёмыя з супрацоўнікам нашага РАУС, і той прапанаваў нам праехаць у аддзяленне для правядзення прафгутаркі.

Дыко ўспамінае, што быў у шоку, калі машына заехала ва ўнутраны дворык РАУС. Па яго словах, на зямлі ўздоўж гаражоў ляжалі людзі тварамі ў асфальт, а над імі стаялі супрацоўнікі міліцыі і АМАПа.

– Ляжалі чалавек 30, а то і больш. Калі нехта з людзей паварочваў галаву – яго адразу білі дубінкай. Тых, каго толькі прывезлі, адводзілі ў нейкі бокс, там бралі тэст на алкаголь. Потым іх вярталі да ўсіх астатніх затрыманых.

Андрэй кажа, што быў моцна шакаваны тым, што адбывалася ў міліцэйскім дворыку.

– Трымаўся я добра, таму што быў на 100% упэўнены, што закон не парушаю, а ў горад выйшаў выказаць сваё меркаванне. Краіна ў нас, як вядома, свабодная, таму рабіць гэта не забаронена.

Хлопец адзначыў, што супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС вялі сябе карэктна, а вось АМАПаўцы – не.

Андрэя разам з сябрам паставілі тварамі да гаража, але не «скручвалі». На яго меркаванне, з імі так паступілі толькі таму, што прывезлі на прафілактычную гутарку. Праз некалькі гадзін хлопцаў адвялі ў дзяжурную часць, каб там дачакацца начальніка Маладзечанскага РАУС **Вадзіма Прыгару**. Праз некаторы час сябра Андрэя паклікалі ў кабінет, дзе паказалі відэазапіс, на якім яны стаялі разам у першым ланцугу 9 жніўня.

– Назад яго ўжо не выпусцілі. Затрымалі без тлумачэння прычын, а на наступны дзень асудзілі на 14 сутак, ён сядзеў у маладзечанскім ізалятары.

Андрэя адпусцілі дадому. Па яго словах, ён паабяцаў начальніку РАУС, што на пратэсных акцыях больш не з'явіцца. Вадзім Прыгара запытаўся ў Андрэя, што ён рабіў на плошчы два дні запар, а пасля сказаў, каб ён больш не трапляў яму на вочы, і адпусціў.

**Настасся УТКІНА.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае




* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Нісан-Алмера, 1,6 бензін, аўтамат. Т. (8-029) 5042529.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на ходу. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра (38,1 / 27,3 / 5) у а.г. Беразінскае Маладзечанскага раёна (15 км ад Маладзечна, 80 км ад МКАД Мінска), на першым паверсе 2-павярховага цаглянага дома. Выдатны рамонт. Развітая інфраструктура. Добрае транспартнае забеспячэнне. Торг. Т. (8-029) 3682051, Галіна.*

• 2-пакаёвая кватэра ў в. Ерхі Вілейскага раёна, агульная плошча 67 кв. м, з выгодамі, 1 паверх. Ацяпленне паравое (кацёл на цвёрдым паліве). Т. МТС (8-029) 5094911, Людміла.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх. (47,5 / 30,9 / 6,2). Т. (8-029) 8530568, (8-033) 3524122.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне, сталярны цэх, гараж. Т. (8-044) 7722658.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, цэнтр, 71 кв. м. Т. (8-044) 7626113.

• Гараж у ГК-21 у Маладзечне па вул. Ф. Скарыны. Т. (8-029) 3069199.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у Вілейцы, 62 кв. м, участак 15 сотак, сад, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 8649054.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*



## ПАСЛУГІ



### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*



• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-25 і запчасткі б/у. Т. (8-029) 7892846.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, ацёл у лютым. Т. (8-029) 2744479.*

• Парасяты кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Парасяты свойскія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.



• Шчаня ўсходне-еўрапейскай аўчаркі. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Жарабца. Т. (8-029) 5083838.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік. Досвед: тынкоўка, шпаклёўка, пліткa, гіпсакардон, шпалеры, падлога і іншае. Т. (8-029) 2775694.

# Двое загінулых на пажары – за два дні

## ГРАНС нагадвае правілы бяспекі

МАЛАДЗЕЧНА

**9 і 10 лютага здарыліся два пажары ў садовых таварыствах Маладзечаншчыны. У абодвух загінулі мужчыны.**



Фота забяспечанае Валянцінай СОПАТ.

Пажар у садовым таварыстве «Люцік-2008».

9 лютага ў 04:18 у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паведамілі з РАУС, што здарыўся пажар у садовым таварыстве «Люцік-2008», што ў вёсцы Гай Хажоўскага сельсавета.

Па прыбыцці ратавальнікаў дом гарэў адкрытым полымем, дах абрынуўся ўнутр. Падчас ліквідацыі пажару знайшлі абгаралае цела. Мяркуюць, што гэта быў 51-гадовы гаспадар дома.

Другі пажар здарыўся ноччу 10 лютага. Загінуў 56-гадовы мужчына. Гарэла лецішча ў садовым таварыстве «Дружба», што каля вёскі Баяры Алёхнавіцкага сельсавета. Па прыбыцці ратавальнікі ўбачылі такую ж карціну – палаючы дом, абрынуты дах. Падчас ліквідацыі пажару знайшлі цела мужчыны з апёкамі без прыкмет жыцця. Меркавана, гэта 56-гадовы гаспадар лецішча. Пажарнага апавяшчальніка ў доме не было.

**Прычына гібелі мужчын і абодвух пажараў высвятляецца.**

**МНС нагадвае:** чалавек не заўсёды своечасова адчуе пачатак пажару і слабы пах дыму, асабліва, калі спіць.

**За вас гэта можа зрабіць аўтаномны пажарны апавяшчальнік.**

Пры з'яўленні ў памяшканні дыму ён выдае гучны перарывісты гукавы сігнал трывогі, які тут жа падымае на ногі нават пагружанага ў глыбокі сон чалавека.

Таксама спецыялісты звяртаюць увагу: часцей у дачных дамах жывуць летам. Печы для абагрэву не выкарыстоўваюцца. Прыязджаючы зімой на свае лецішчы, вы павінны быць упэўненыя, што ваша печка гатовая да эксплуатацыі.

– Печкі і коміны трэба ачысціць, адрамантаваць і пабяліць, заладзіць расколіны. Печ, дымавая труба ў месцах злучэння з драўлянымі паддашкавымі або міжпавярховымі перакрыццямі павінны мець патаўшчэнне цаглянага мура – раздзелку. Не трэба забывацца і пра патаўшчэнне сценак печы;

– не ўжывайце для распальвання гаручыя і самазагаральныя вадкасці;

– печкі і каміны павінны мець устаноўленыя нормамі супрацьпажарныя адступкі і раздзелкі, гэта значыць, адлегласць ад унутраной паверхні дымавой трубы да гаручых элементаў будынка павінна быць выкладзеная з вогнетрывалай цэглы. Коміны робяць з глінянай цэглы таўшчынёй не менш за 12 сантыметраў. Паветраны праменжак паміж печчу і гаручымі сценамі павінны быць 20-50 сантыметраў у залежнасці ад абароненасці гаручай сцены, таўшчыні сценкі печы, тыпу адступкі;

– на драўлянай падлозе перад топкай неабходна прыбіць металічны ліст або заслаць любое незгаральнае пакрыццё;

– каб не дапускаць перапалу печы, рэкамендуецца паліць яе двойчы разы на дзень і не больш, чым па паўтары гадзіны; за дзве гадзіны да адыходу да сну трэба перастаць паліць печ. Попел і дзындру, якія выграбаюць з топак, неабходна праліць вадой і вынесці ў спецыяльна адведзенае для іх бяспечнае месца.

Каб пазбегнуць расколін у муры, трэба перыядычна прачышчаць комін ад сажы, чысціць коміны і печы ад сажы неабходна перад пачаткам ацяпляльнага сезона і на працягу яго.

**МНС папярэджвае:** прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі.

**Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі.**

У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 або 112, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аддзел інфармацыі.**

# Дайджэст: Суд над журналісткамі і штрафы паўторна

## Прыгадваем асноўныя падзеі мінулага тыдня ў Беларусі

**Што адбывалася ў Беларусі за мінулы тыдзень, прыгадаем у нашым аглядзе падзей.**

### СК хоча, каб людзі, за якіх фонды аплацілі штрафы, заплацілі зноў

Пра гэта заявіў начальнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінску **Сяргей Паско**.

Паводле яго слоў, следства заўважыла шмат фактаў аплаты штрафаў іншымі арганізацыямі і фізічнымі асобамі за вінаватых асоб. На гэтыя грошы Следчым камітэтам з санкцыі пракурора наклалі арышт. Перад зацікаўленымі ведамствамі ініцыяванае правядзенне працэсуальных дзеянняў па спагнанні штрафаў непасрэдна з правапарушальнікаў.

### Расія перадала Беларусі іншую вакцыну ад каронавіруса

Пра гэта паведаміла журналістам кіраўнік Расспажыўнагляду **Ганна Папова** па выніках сустрэчы з прэм'ерам Беларусі **Раманам Галоўчанкам**. «ЭпіВакКарона» – гэта вакцына, распрацаваная навуковым цэнтрам «Вектар». Паводле распрацоўшчыкаў, яна не выклікае алергічных рэакцый: прэпарат створаны без выкарыстання бялку жывёльнага паходжання на аснове штучна атрыманых часціц каронавіруса. Таксама раней расійскія СМІ пісалі, што вакцына ад «Вектара» больш бяспечная для пажылых людзей. У Беларусі медыкаў прышчапляюць вакцынай «ГамКавідВак» (або «Спадарожнік V»), распрацаванай цэнтрам імя Гамалеі.

### Судзяць журналістак, якія вялі стрым з «Плошчы Перамен»

9 лютага ў судзе Фрунзенскага раёна пачаўся разгляд справы журналістак «Белсата» **Кацярыны Андрэевай (Бахвалавай)** і **Дар'і Чульцовай**. 15 лістапада яны вялі стрым з «Плошчы Перамен». Журналісткі знаходзіліся ў адной з кватэр. Сілавікі выламалі дзверы і затрымалі дзяўчат. Ад 15 лістапада Чульцова і Андрэева знаходзяцца пад вартай. Іх вінавацяць па частцы 1 артыкула 342 КК: арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. І ўсё гэта таму, што яны вялі відэастрым з «Плошчы Перамен», дзе 15 лістапада ўшаноўвалі памяць 29-гадовага Рамана Бандарэнкі, які тут загінуў. Пакаранне ад штрафу ці арышту да трох гадоў «хіміі» альбо нават калоніі.

**Паводле БелТА і «Нашай Нівы».**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

# Вас выклікаюць у міліцыю або Следчы камітэт

**Пра тое, як дзейнічаць у выпадках, калі вас выклікаюць у міліцыю або Следчы камітэт, раіць праваабаронца Алег Мацкевіч.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў у Маладзечне.

### У якіх выпадках можна адмовіцца ад сустрэчы?

Толькі ў тым выпадку, калі вас выклікаюць не ў адпаведнасці з крымінальна-працэсуальным, працэсуальна-выканаўчым аб адміністрацыйных правапарушэннях або іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Бо запрашэнні могуць мець розныя прычыны і, адпаведна, рознае юрыдычнае абгрунтаванне.

Зразумець, ці маеце вы права адмовіцца ад прапанаванай сустрэчы, не складана. Калі вас выклікаюць «паперай», гэта значыць, нейкім афіцыйным дакументам, то яна павінна мець адмысловыя рэквізіты і адпавядаць шэрагу патрабаванняў. Калі ж вас выклікаюць вусна, напрыклад, па тэлефоне, варта падрабязна спытацца, у адпаведнасці з якім законам трэба з'явіцца на размову да супрацоўніка міліцыі або да іншых прадстаўнікоў сілавых ведамстваў, у сувязі з чым выклікаюць, у якасці каго вы будзеце присутнічаць, аб часе, месцы.

Ніякіх негатыўных наступстваў не можа быць толькі ў выпадку, калі вам прапануюць з'явіцца для «размовы за кубачкам гарбаты», пры гэтым не спасылаючыся на нейкія законныя падставы для правядзення сустрэчы. У такім выпадку можна проста спаслацца на адсутнасць жадання (часу, фізічных магчымасцяў і іншых) і прапанаваць даслаць афіцыйны дакумент, які б адпавядаў патрабаванням закона.

### Што павінна змяшчаць павестка (або SMS-паведамленне)?

У адпаведнасці з крымінальна-працэсуальным, працэсуальна-выканаўчым аб адміністрацыйных правапарушэннях заканадаўствам Рэспублікі Беларусь павестка павінна ўтрымліваць наступныя звесткі: хто і ў якой якасці выклікаецца, да каго і па якім адрасе, час яўкі, наступствы няяўкі без уважлівых прычын.

Тэлефанаграмай або з выкарыстаннем іншых сродкаў сувязі, у тым ліку SMS, могуць выклікаць асоб, якія ўдзельнічаюць у адміністрацыйным працэсе. Калі ж выклік адбываецца ў межах крымінальнага працэсу, крымінальна-працэсуальны кодэкс дазваляе толькі адзін спосаб – павесткай.

### Якая адказнасць, калі грамадзянін не з'явіцца па павестцы?

У выпадку няяўкі па выкліку без уважлівай прычыны грамадзянін можа быць падвергнуты прыводу. Гэта робіцца па пастанове суддзі, органа, які вядзе адміністрацыйны працэс, органа дазнання, следчага, пракурора, дзяржаўнага абвінаваўцы. Таму калі вы не можаце з'явіцца па павестцы па нейкіх уважлівых прычынах – хвароба, форс-мажорныя абставіны, якія робяць гэта немагчымым, – трэба паведаміць пра іх службовую асобу, якая вас выклікала.

У выпадку ўхілення ад яўкі ў суд для грамадзяніна можа наступіць адміністрацыйная адказнасць у выглядзе папярэджання, штрафу, або адміністрацыйнага арышту.

### У якіх выпадках вы можаце патрабаваць прысутнасці адваката?

Часам на просьбу аб адвакацкай дапамозе вам могуць адказаць, што яна не прадугледжаная. Такое магчыма, напрыклад, калі вы з'яўляецеся сведкам па крымінальнай справе або ўдзельнікам адміністрацыйнага працэсу. Але гэта не так.

Трэба разумець, што адвакацкая дапамога можа быць як «па прызначэнні», яшчэ такіх адвакатаў называюць «дзяржаўнымі», так і ў адпаведнасці з заключаным пагадненнем з канкрэтным адвакатам. Адваката па прызначэнні ў абавязковым парадку даюць падазраваным або абвінавачаным па крымінальнай справе.

Ва ўсіх астатніх выпадках грамадзянін можа патрабаваць прысутнасці адваката, з якім у яго ўжо заключаная дамова або з якім жадае заключыць дамову на аказанне юрыдычнай дапамогі «тут і зараз». Для гэтага трэба спаслацца на норму артыкула 62 Канстытуцыі: «Кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіравання, на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, грамадскіх аб'яднаннях і ў адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі.

У выпадках, прадугледжаных законам, юрыдычная дапамога аказваецца за кошт дзяржаўных сродкаў. Супрацьдзеянне аказанню прававой дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь забараняецца».

### Якія практычныя парады, як паводзіць сябе падчас апытання?

Найлепшыя паводзіны падчас камунікацыі з прадстаўнікамі сілавых структур – гэта прыязнасць і спакой. Нават калі вы моцна раздражнёныя і раззлаваныя, пастарайцеся ўзяць сябе ў рукі, не выказваць негатыўных эмоцый, нікога не абражаць.

Калі вырашылі абысціся без дапамогі адваката, будзьце пільнымі і асцярожнымі. Сведка або пацярпелы мае права не сведчыць супраць сябе, сваіх родных і блізкіх. Што тычыцца іншага, то адмова або ўхіленне ад давання паказанняў могуць пацягнуць наступствы ў выглядзе крымінальнай адказнасці.

Варта выдаваць толькі тую інфармацыю, якую пытаецца ў вас следчы, не гаварыць лішняга, уважліва знаёміцца з працэсуальнымі дакументамі, своечасова выпраўляць недакладнасці ў іх, рабіць свае заўвагі, пры неабходнасці – скардзіцца на супрацьпраўныя дзеянні сілавікоў.

### У якасці каго могуць выклікаць і для якой працэсуальнай працэдуры?

У межах крымінальнага працэсу допыт можа праводзіцца толькі ў адносінах да пэўнай катэгорыі асоб, якія не маюць адмысловых службовых абавязкаў: сведак, пацярпелых, падазраваных, абвінавачаных.

У адносінах да асоб, якія ўдзельнічаюць у адміністрацыйным працэсе (сведкі, пацярпелыя, асобы, датычна якіх вядзецца адміністрацыйны працэс, іншыя) праводзіцца апытанне. У адносінах да названых асоб могуць ажыццяўляць і іншыя працэсуальныя дзеянні, прадугледжаныя крымінальна-працэсуальным, працэсуальна-выканаўчым аб адміністрацыйных правапарушэннях заканадаўствам.

### Што рабіць, калі ў пратакол напісалі тое, што вы не казалі?

Калі ў пратакол допыту або апытання напісалі тое, аб чым вы не казалі, трэба звяртаць на гэта ўвагу службовай асобы, якая праводзіла працэсуальнае дзеянне. У выпадку, калі вам адмаўляюць у выпраўленні паказанняў, трэба настойваць на гэтым.

Пасля прачытання пратакола допыту або апытання, асоба, у дачыненні да якой рабілі працэсуальнае дзеянне, павінна яго падпісаць. Гэтым можна скарыстацца для таго, каб сваёй рукой выправіць недакладныя звесткі, або ў канцы дакумента дапісаць тое, з чым вы канкрэтна не згодныя і як былі парушаныя вашы правы.

### Што рабіць у выпадках, калі вам кажуць: падпішы пратакол – і адпусцім дадому?

Калі пратакол працэсуальнага дзеяння складзены належным чынам і не выклікае ў вас ніякіх пярэчанняў, можна смела яго падпісваць і ісці дадому. Факт непадпісання не цягне значных юрыдычных наступстваў для грамадзяніна і не можа сведчыць аб яго невінаватасці. Калі ж да пратакола ёсць заўвагі – глядзі папярэдні пункт.

### Якія правы падчас апытанняў найчасцей парушаюць?

Пратакол допыту або апытання можа ўтрымліваць недакладныя звесткі, памылкі, што можа паўплываць адмоўным чынам на вынік справы. Грамадзяніну, які прыцягваецца да адказнасці, могуць не патлумачыць яго правы і абавязкі. Могуць беспадстаўна адмовіць у прапанове адвакацкай дапамогі. Апытанне можа праводзіцца не ў межах крымінальнага або адміністрацыйнага працэсуальнага права, але пры гэтым чалавека могуць прымушаць адказваць на пытанні, што супрацьзаконна.



Вадзім Гурман прызнаў віну толькі па артыкуле 342.

# Маладзечанца асудзілі на 3 гады і 6 месяцаў за пратэсную акцыю 9 жніўня

**Суддзя суда Маладзечанскага раёна Вольга Дубовік агучыла прысуд па крымінальнай справе Вадзіма Гурмана – 3 гады і 6 месяцаў у калоніі агульнага рэжыму.**

5 і 8 лютага прайшлі апошнія пасяджэнні па крымінальнай справе Вадзіма Гурмана. У судзе прайшлі спрэчкі бакоў, абвінавачаны выступіў з апошнім словам, а суддзя агучыла прысуд.

## Спрэчкі бакоў

Дзяржаўны абвінаваўца **Сяргей Габруковіч** упэўнены, што віна Гурмана даказаная па двух артыкулах: частка 1 артыкула 342 і артыкул 364 Крымінальнага кодэкса. Сваімі выхадамі перад счэпкай людзей маладзечанец у алкагольным ап'яненні падбухторваў натоўп да актыўных дзеянняў і пагражаў забойствам супрацоўнікам Маладзечанскага РАУС. Габруковіч лічыць, што позвы пацярпелых аб кампенсацыі маральнай шкоды трэба задаволіць: **Вадзіму Лазару**, **Дзмітрыю Смаленскаму**, **Паўлу Сіняўскаму** – 500 рублёў, **Аляксандру Цярэнцьеву** – 1000 рублёў.

Дзяржаўны абвінаваўца запрасіў для Гурмана 3 гады і 6 месяцаў у выпраўленчай калоніі агульнага рэжыму. Усе пацярпелыя падтрымалі дзяржаўнага абвінаваўцу.

Адвакат **Алена Літвіновіч** заявіла, што крымінальная справа Гурмана палітызаваная. Па словах абароны, абвінавачанне недакладнае, а віна Гурмана недаказаная па абодвух артыкулах. Літвіновіч сказала, што лозунгі, якія выкрыкваў абвінавачаны – «Жыве Беларусь!», «Міліцыя з народам!», – не злачынныя. Абаронца заўважыла, што меркаваны матыў па артыкуле 364 – помста за прафесійную дзейнасць – не пацвердзіўся падчас судовага разбору.

– Трэба быць усё-ткі сумленнымі: пацярпелыя баяліся Гурмана ці баяліся натоўпу людзей? Асноўныя доказы па артыкуле 364 – паказанні пацярпелых і сведак, і ўсе яны супрацоўнікі РАУС, – падкрэсліла Літвіновіч.

Яна паказала суддзі, абвінаваўцы, пацярпелым і ўсім прысутным у зале пасяджэння, як адрозніваюцца пратаколы допыту пацярпелых і сведак, якія давалі падчас следства. Адвакат вылучыла ў тэксце зялёным колерам супадзенні і жоўтым колерам – адрозненні. У пратаколах допыту пацярпелых і сведак было толькі некалькі адрозненняў, амаль увесь тэкст быў зялёнага колеру. Па словах абаронцы, адрозніваюцца толькі моманты, дзе пацярпелыя называюць імёны, хто стаяў побач з імі ў шарэнзе. У тэкстах аднолькавыя граматычныя памылкі і памылкі друку. Адвакат хадайнічала, каб паказанні прызналі несапраўднымі, і назвала іх сфальсіфікаванымі.

## Апошняе слова

Вадзім Гурман выступіў у судзе з апошнім словам. Ён выбачаўся перад суддзёй, што крыху перанервоваўся, калі пачуў, які тэрмін запатрабаваў дзяржаўны абвінаваўца. «Рэгіянальная газета» публікуе цалкам апошняе слова Вадзіма Гурмана:

– Прашу прыняць той факт, што я не хаваўся на плошчы за маскай. Я не хаваў свой твар. Калі пачалося следства, цалкам прызнаў віну па артыкуле 342. Я не спрабаваў схавацца ад следства і ў мяне не было адваката. Абаронца ў мяне з'явіўся, калі мне прад'явілі абвінавачанне па артыкуле 364.

У абвінавачанні гаворыцца, што я ўсё здзейсніў з помсты. Якая была помста, калі раней іх не ведаў? Раней я быў судзімы, адбываў пакаранне ў калоніі для непаўнагадовых, пасля мяне перавялі ў дарослую калонію. За сваё невялікае жыццё бачыў многіх супрацоўнікаў, нават тых, хто мяне прыцягваў да крымінальнай адказнасці. Напрыклад, **Прастакова**, з якой я сутыкаўся пасля вызвалення.

Я быў сведкам па справе збіцця супрацоўніка Следчага камітэта, якога я сваімі рукамі даставаў і выцягваў, ведаючы, што ён супрацоўнік.

Якая магла быць помста, калі помсціць мне няма за што? Побач з супрацоўнікамі стаялі мой аднакласнік і мой калега, з якім я ў дзяцінстве займаўся спортам. Тут прысутнічаюць мае маці і бацька, якія ведаюць бацькоў **Сямёна Курца**. Мы ўсё жыццё сябравалі, і пагражаць яго сям'і мне не трэба.

Прашу Высокі суд улічыць, што ў мяне хутка народзіцца двое дзяцей. Я павінны як бацька быць побач з імі, выхоўваць іх, гадаваць і дарыць сваю любоў. Мне вельмі складана аб гэтым гаварыць.

Я бачу практыку, знаходзячыся два месяцы ў турме ў Жодзіне, як людзі прыязджаюць і якія тэрміны ім даюць, улічваючы прызнаюць ці не прызнаюць сваю віну. Я з радасцю б прызнаў віну па артыкуле 364, ведаю, што гэта змякчыла б пакаранне. Я не хачу атрымаць вялікі прысуд. Я быў без маскі, проста стаяў, не адмаўляюся, што там быў. Высокі суд, прашу аднесціся да мяне паблажліва і не караць строга.

Гурман звярнуўся да пацярпелых:

– Напэўна, зраблю няправільна, але працытую сваю фразу, якую сказаў тады на плошчы Леніна. У вас ёсць сем'і, як вы ў далейшым будзеце глядзець ім у вочы, калі збівалі людзей? Я паўтаруся: як вы сёння вечарам, кожны з вас, супрацоўнікі МУС, прыйдзеце дадому?

> **Добра жонка, але дзіця запытаецца: «Тата, што ты зрабіў сёння на працы?» А вы скажыце сумленна і праўду, што сёння вы пасадзілі невінаватага чалавека і разбурылі яго сям'ю? Думаю, ні адзін з вас не скажа праўду.**

Гурман звярнуўся да бацькоў і сваёй дзяўчыны. Ён сказаў, што яго наўрад ці выпусцяць з залы судовага пасяджэння.

## Прысуд

8 лютага прайшло апошняе пасяджэнне па справе Вадзіма Гурмана. Маладзечанца прызналі вінаватым па двух крымінальных артыкулах. Суддзя Дубовік прызначыла пакаранне 3 гады і 6 месяцаў калоніі агульнага рэжыму. Столькі прасіў дзяржаўны абвінаваўца.

Таксама Гурман павінны выплаціць кампенсацыі маральнай шкоды чатыром пацярпелым міліцыянерам: Смаленскаму, Сіняўскаму, Лазару і Цярэнцьеву – па 500 рублёў кожнаму.

9 лютага незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна» прызнаў Вадзіма Гурмана палітвязнем.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# У Смаргоні судзяць гальшанца па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса

## У тым ліку і за акт тэрарызму

**2 і 10 лютага ў судзе Смаргонскага раёна прайшлі пасяджэнні па крымінальнай справе Івана Вярбіцкага. Яго абвінавачваюць па чатырох артыкулах.**

Судовы разбор вядзе суддзя **Людміла Пятрова** і два народныя засядацелі – **Дукава** і **Матвеева**. Дзяржаўны абвінаваўца – **Сяргей Кавальчук**. Абвінавачанага абараняе адвакат **Аляксей Крывалапаў**. Пацярпелых па дадзенай справе няма.

Івана Вярбіцкага абвінавачваюць па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса:

**Частка 5 артыкула 16 «Саўдзел у злачынстве».**

**Частка 1 артыкула 289 «Акт тэрарызму».** Караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад васьмі да пятнаццаці год.

**Частка 2 артыкула 295 «Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў».** Караецца выпраўленчымі працамі на тэрмін да двух год ці арыштам альбо абмежаваннем волі на тэрмін да пяці год, альбо абмежаваннем волі на тэрмін да сямі год са штрафам ці без штрафу.

**Частка 1 артыкула 377 «Крадзеж, знішчэнне, пашкоджанне або ўтойванне дакументаў, штампаў, пячатак, крадзеж бланкаў».** Караецца грамадскімі працамі ці штрафам альбо выпраўленчымі працамі на тэрмін да двух год ці арыштам, альбо абмежаваннем волі на тэрмін да двух год, альбо пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

Згодна з абвінавачаннем, 14 кастрычніка 2020 года Іван Вярбіцкі размясціў у двух тэлеграм-каналах каментары, у якіх заклікаў закідаць пракуратуру Ашмянскага раёна кактэйлямі Молатава і пашкодзіць маёмасць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў і іх сямей. Абвінавачанне трактуе размяшчэнне каментароў у публічных тэлеграм-каналах як падбухторванне да здзяйснення акту тэрарызму. Вярбіцкага абвінавачваюць яшчэ ў тым, што 21 кастрычніка ён разарваў пратакол абператрусе, а таксама ў незаконным набыцці і захоўванні боепрыпасаў і выбуховых рэчываў.

Вярбіцкі прызнае віну толькі па артыкуле 377.

### Паказанні Вярбіцкага

Іван Вярбіцкі нарадзіўся ў Багданаве ў Валожынскім раёне 17 ліпеня 1965 года. Пасля жыў у Гальшанах Ашмянскага раёна, дзе афіцыйна зарэгістраваны, але працаваў ад 1990-х гадоў у Расіі. У яго дзве вышэйшыя адукацыі. Працаваў мастаком-дызайнерам, затым перакваліфікаваўся і працаваў мультыплікатарам, рэжысёрам, мантажорам відэа. Малюе карціны, піша апавяданні. Раней не быў судзімы.

Вярбіцкі прыехаў з Падмаскоўя ў Гальшаны ў красавіку 2020 года. У Гальшанах Вярбіцкі жыў у доме бацькі, які памёр пяць год таму. Дом дастаўся ў спадчыну яму і яго сястры, аднак яны яшчэ не дзялілі маёмасць.

14 кастрычніка Вярбіцкі прачнуўся каля 9 гадзін, адкрыў тэлеграм. У двух тэлеграм-каналах пакінуў допісы, па якіх яго цяпер абвінавачваюць. Ён патлумачыў, што трэба разумець мяжу паміж рэчаіснасцю і віртуальным жыццём. Па яго словах, дыскусія ў тэлеграм-каналах была абсалютна жартоўнай і не мела дачынення да рэальнага жыцця. Вярбіцкі прызнаўся, што часта займаўся «тролінгам», значыць, пажартаваў:

– У адным з тэлеграм-чатаў, напэўна, гэта быў канал «Ліда для жыцця», напісаў, што трэба зрабіць інтэрнэт-дэманстрацыю: выпусціць кароў, размаляваных у белыя і чырвоныя колеры. Канешне, гэтага б не адбылося. Яшчэ пісаў, што зрабіў падкоп з Гальшанаў да рэзідэнцыі прэзідэнта. Але стаміўся, а засталося ўсяго 200-300 метраў дакапаць, таму заклікаў людзей мне дапамагчы. Вось у жартоўнай форме пісаў, але тады справу не ўзбудзілі.

Абвінавачаны не ведаў, дзе знаходзіцца пракуратура ў Ашмянах, а дакладнага месца для збору людзей маленькімі групамі нідзе не ўказваў. Вярбіцкі не быў знаёмы ні з кім асабіста з гэтых каналаў. Таксама ён адмаўляе, што падбухторваў людзей да тэрарыстычнага акту, ніякіх дзеянняў для здзяйснення злачынства не прадпрымаў.




Вярбіцкі прызнае віну толькі па адным артыкуле.

21 кастрычніка Вярбіцкі выйшаў па прадукты. Пасля вяртаўся дадому і пабачыў групу асоб. Сярод гэтай групы людзей быў чалавек у міліцэйскай форме, побач стаяла міліцэйская машына. Людзі паказалі яму пасведчанні.

– Падумаў спачатку, што гэта жарт, розыгрыш. Толькі пасля зразумеў, што гэта сапраўды супрацоўнікі. Адзін паказаў пастанову пракурора, дзе мяне абвінавачваюць па нейкіх жахлівых артыкулах.

Вярбіцкі прачытаў адну старонку пастановы, раззлаваўся і разарваў дакумент. Калі яго збіраліся павезці ў аддзел міліцыі, дастаў тэлефон і разбіў аб багажнік міліцэйскага аўтамабіля.

– Разбіў тэлефон, таму што ўзнік такі выпадак. Прыехала следчая група, якая прыйшла лавіць злога тэрарыста, – тлумачыў свае дзеянні Вярбіцкі.

Міліцыянеры адвезлі Вярбіцкага ў аддзел міліцыі, напісалі новую пастанову і вярнуліся ў Гальшаны. Там Вярбіцкі адмаўляўся адчыняць дзверы дома, пакуль не прыйшоў старшыня сельвыканкама.

Дома ў абвінавачанага следчая група знайшла порах і 23 малакаліберныя патроны. Вярбіцкі расказаў, што дом вялікі – шмат пакояў, у якіх ён не жыў, не чапаў рэчы, што засталіся пасля смерці бацькоў, і не ведае дакладна, што і дзе захоўвалася.

Порах, які знайшлі ў шафе, знаходзіўся за слоікамі, ён туды не лазіў. А патроны былі ў чамадане, які ляжаў ў канапе ў пакоі маці, куды ён вельмі рэдка заходзіў. Вярбіцкі мяркуе, што порах і патроны засталіся ад бацькі, які быў паляўнічым. Дарэчы, сам Вярбіцкі таксама быў паляўнічым, ён здаў сваю стрэльбу ў міліцыю на ўтылізацыю яшчэ ў 2019 годзе.

### Сведкі з Ашмянскага РАУС

**Мікалай Вярбіцкі**, **Ігар Якаўлеў**, **Аляксей Ярашэвіч** – оперупаўнаважаныя Ашмянскага РАУС. Яны праводзілі ператрус у абвінавачанага. Якаўлеў і Ярашэвіч заявілі, што перад тым, як разарваць паперу аб ператрусе, абвінавачаны сказаў нешта пра карнікаў. Ярашэвіч працытаваў: «Вы – карнікі, вы не дзейная заканадаўчая ўлада». Супрацоўнікі міліцыі пацвердзілі, што знайшлі дома ў Вярбіцкага порах і патроны, а таксама забралі камп'ютарную тэхніку.

**Аляксандр Гудзеўскі** – участковы Ашмянскага РАУС. Ён таксама праводзіў ператрус. Па яго словах, больш займаўся відэаздымкай, чым адабраннем рэчаў, таму не ведае, дзе дакладна знайшлі порах і патроны.

**Андрэй Стэльмах** – старшы інспектар па дазвольнай працы Ашмянскага РАУС. Ён не прымаў удзел у ператрусе. Стэльмах расказаў, што Вярбіцкі здаваў стрэльбу ў 2019 годзе яму.

### Сястра і суседка на суд не прыехалі

На пасяджэнне 10 лютага не з'явіліся сведкі Віткоўская і Шнэп. Абедзве прасілі правесці судовы разбор без іх, толькі зачытаць паказанні, якія яны далі на папярэднім следстве.

21 кастрычніка суседку Вярбіцкага Віткоўскую супрацоўнікі папрасілі стаць панятой. Яна пагадзілася, аднак у ператрусе не ўдзельнічала, бо Вярбіцкі парваў пастанову аб ператрусе і яго павезлі ў Ашмянскі РАУС, а Віткоўская пайшла дадому.

Сястра Вярбіцкага Шнэп жыве ў Мінску. З братам не размаўляе некалькі год. У доме бацькоў не была з гадавіны пахавання бацькі ў 2016 годзе.

Шнэп характарызуе брата як творчую асобу, якую мала хвалююць бытавыя праблемы. Яна сказала, што не ведае, каму належаць патроны і порах, якія знайшлі пры ператрусе.

Яшчэ адзін сведка Шульжыцкі таксама не з'явіўся на пасяджэнне.

### Доказы па справе

У крымінальнай справе Вярбіцкага тры тамы. Абвінаваўца зачытаў пісьмовыя матэрыялы. Згодна з імі, у абвінавачанага забралі сістэмны блок, два ноўтбукі, чатыры мабільныя тэлефоны, дзве флэшкі, фотаапарат. Падчас ператрусу знайшлі порах і некалькі дзясяткаў патронаў. На слоіках пораху знайшлі сляды рук, але яны непрыгодныя для экспертызы.

У яўцы з пакаяннем Вярбіцкі напісаў, што пакаяўся, пакідаў паведамленне ў тэлеграме толькі з жартоўнай мэтай і каб узбудзіць дыскусію.

Падчас знаходжання ў ізалятары часовага ўтрымання ў Ашмянах у камеру да Вярбіцкага спецыяльна пасадзілі чалавека, каб разгаварыць яго. Гэта праходзіла ў рамках аператыўных дзеянняў «Слухавы кантроль». Дзяржаўны абвінаваўца зачытаў запісаныя размовы ў камеры. Вярбіцкі прытрымліваўся той жа версіі, якую выказаў падчас папярэдняга і судовага следства: пісаў у тэлеграме «па прыколу», намераў здзейсніць тэрарыстычны акт не было.

У судовым разборы засталося праглядзець рэчавыя доказы, павінны прайсці спрэчкі бакоў, апошняе слова ад абвінавачанага і абвяшчэнне прысуду. «Рэгіянальная газета» будзе сачыць за працэсам.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Смаргонка дапамагла беларускай зборнай прайсці на чэмпіянат Еўропы па баскетболе

**3, 4 і 6 лютага жаночая зборная Беларусі па баскетболе змагалася за права выйсці на чэмпіянат Еўропы. У складзе нацыянальнай каманды выступіла баскетбалістка са Смаргоні Юлія Рыцікава. Расказваем, як Рыцікава дапамагла зборнай выйсці на восьмы для сябе чэмпіянат Еўропы.**



Фота fiba.basketball.

Рыцікава – у цэнтры фотаздымка побач з партнёрамі па камандзе.

### Правальная гульня супраць Польшчы

3 лютага стартавала апошняе кваліфікацыйнае акно чэмпіянату Еўропы. Да гэтага ў кваліфікацыі беларускі не гулялі амаль два гады. Зборная пад кіраўніцтвам галоўнага трэнера **Наталлі Трафімавай** прапусціла кваліфікацыйнае акно ў лістападзе праз каронавірус – у беларускіх баскетбалістак выявілі станоўчыя тэсты на COVID-19. Апошні раз нацыянальная зборная Беларусі выходзіла на паркет у кваліфікацыі ЧЕ-2021 у 2019 годзе. Тады беларускі перамаглі Вялікабрытанію буйным лікам – **90:59**.

3 лютага зборная ўпершыню за два гады сабралася разам. У камандзе адсутнічала **Аляксандра Тарасава**, якая традыцыйна гуляе ў стартавай пяцёрцы. Тым не менш у Трафімавай быў звычайны склад гульцоў, але гэта не дапамагло зборнай перамагчы. Полькі былі больш хуткія, больш дакладныя ў трохачковых кідках, а напрыканцы матча выйшлі наперад на 12 ачкоў. Гульня скончылася з лікам **68:56**. Лепшай у складзе беларускай каманды стала **Анастасія Верамеенка** (8 ачкоў, 8 падбораў, 2 перадачы, 1 перахоп, 2 блок-шоты). У матчы за нацыянальную зборную дэбютавала **Юлія Васілевіч** з гродзенскай «Алімпіі».

– Нам не атрымалася рэалізаваць устаноўкі трэнерскага штаба як у атацы, так і ў абароне, што і прывяло да паражэння. У сваю чаргу, саперніцы актыўна адпрацавалі ў абароне, не далі нам забіць свае кідкі. Магчыма, адбілася адсутнасць сумеснай гульнявой практыкі: больш за год мы не выходзілі на паркет у складзе зборнай. І ўсё-ткі, ні ў якім разе не збіраемся здавацца, таму што наперадзе яшчэ два матчы.

> **Неабходна апаратыўна правесці працу над памылкамі, каб заўтра вынік быў на нашу карысць, – расказала Рыцікава пасля сустрэчы з Польшчай.**

Наступныя матчы для беларусак павінны былі вырашыць, ці паедуць яны ў чэрвені на чэмпіянат Еўропы, які будуць сумесна праводзіць Францыя і Іспанія. У выпадку, калі б беларуская каманда прайграла Вялікабрытаніі, то, магчыма, для зборнай Еўрабаскета не адбылося б.

### Рыцікава – фактар перамогі над Вялікабрыніяй

4 лютага беларускія баскетбалісткі правялі пераможную сустрэчу з Вялікабрытаніяй. Галоўным фактарам перамогі ў гэтым самым важным матчы для зборнай стала баскетбалістка родам са Смаргоні **Юлія Рыцікава**. Рыцікава двойчы выводзіла каманду наперад у ліку, двойчы забівала ў апошнія секунды гульнявых адрэзкаў.

Матч супраць Вялікабрытаніі стаў прадуктыўным для Рыцікавай: 17 ачкоў, 3 падборы, 1 перадача, 2 перахваты. Смаргонка стала адной з трох самых эфектыўных баскетбалістак у матчы. Дзве іншыя – гэта **Кацярына Сныціна** і Анастасія Верамеенка. Матч Беларусь – Вялікабрытанія скончыўся перамогай беларусак з лікам **67:57**.

6 лютага беларускі зноў згулялі з полькамі – гэта быў апошні матч кваліфікацыі. Беларусь ужо забяспечыла сябе месца на чэмпіянаце Еўропы. Галоўнай задачай для зборнай пад кіраўніцтвам Трафімавай – не прайграць 29 ачкоў. Беларусь перамагла з лікам **80:49**.

Такім чынам, беларускія баскетбалісткі выйшлі на чэмпіянат Еўропы з першага месца кваліфікацыйнай групы. Апошні раз такое было дзевяць гадоў таму, калі наша зборная прабівалася на Еўрабаскет-2013. Тады беларускам трэба было заняць першае альбо другое месца ў сваёй групе, каб атрымаць пуцёўку на чэмпіянат. У пуле разам з беларускай нацыянальнай камандай гулялі Украіна, Венгрыя, Ізраіль і Партугалія. У выніку: шэсць пераможных матчаў з васьмі.

**Настасся УТКІНА.**

## Гарадскі стадыён у Маладзечне і мясцовую ДЮСШ могуць перадаць «Ісладчы»

Журналіст **Дзмітры Сельвяструк** у сваім тэлеграм-канале «Сярэбраны век. Футбол Беларусі» расказаў пра лёс стадыёна ў Маладзечне. Па яго інфармацыі, маладзечанскім гарадскім стадыёнам будзе карыстацца ў наступным сезоне каманда вышэйшай лігі з Мінскага раёна «Ісладч». Раней «Ісладч» праводзіла ў Маладзечне дамашнія гульні.

**Паводле t.me/silverageABFF.**

## Жанчына ўпершыню адпрацавала галоўным арбітрам на матчы ФІФА

Бразільянка **Эдзіна Алвез Батыста** стала першай жанчынай, якая працавала ў якасці галоўнага арбітра на турніры мужчынскіх камандаў пад эгідай ФІФА. Яе асістэнтамі былі **Неўза Бак** з Бразіліі і **Марыяна Дэ Алмэйда** з Аргенціны.

Батыста абслугоўвала матч клубнага чэмпіянату свету ў Катары «Ульсан Хендай» – «Аль-Духайль».

На матчах пад эгідай УЕФА раней працавала французжанка **Стэфані Фрапар**. У 2017 годзе ў Бундэслізе **Бібіяна Штайнхаўз** стала першай жанчынай-арбітрам.

**Паводле fifa.com.**

## Напрыканцы лютага плануецца алімпійскі сход, на якім выберуць новае кіраўніцтва НАК Беларусі

Спартыўнае выданне «Трыбуна» паведаміла, што напрыканцы лютага 2021 года плануюць правесці алімпійскі сход, на якім будуць выбіраць новае кіраўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта (НАК).

> **Федэрацыям ужо разасланыя лісты з прапановамі, каго яны хацелі б бачыць у якасці кіраўнікоў НАК.**

Нагадаем, раней Міжнародны алімпійскі камітэт прымяніў санкцыі ў адносінах да беларускага НАК і яго кіраўніцтва. Кіраўніком НАК з'яўляецца **Аляксандр Лукашэнка**. Яго сын **Віктар Лукашэнка** – першы віцэ-прэзідэнт, а **Дзмітры Даўгалёнак** – віцэ-прэзідэнт.

**Паводле «Трыбуны».**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Клапатлівыя, чулыя адносіны, прыхільнасць да каго-небудзь.
3. Струмень вады або якой-небудзь вадкасці, які з сілай выкідваецца ўгору пад высокім ціскам.
4. Баявы парадак пяхоты і конніцы ў старажытных грэкаў, шчыльна самкнуты строй з некалькіх шарэнгаў.
7. Зямля ў процілегласць воднай прасторы.
8. Паказальны або пробны экзэмпляр якога-небудзь вырабу, прадмета.
9. Другі месяц каляндарнага года.
10. Патрабаванні або прапановы аднаго з дагаворных бакоў, якія прымаюцца або адхіляюцца другім бокам.
11. Сядзенне для конніка, якое мацуецца на спіне каня.
14. Род аптычнага шкла са сферычнымі паверхнямі.
15. Караткевіч: «Быў. Ёсць. Буду. Таму, што заўжды, як пракляты, Жыву бяздоннай трывогай, Таму, што ... маё распята За ўсе мільярды двухногіх».
16. Прадмет, прызначаны для гульні дзецям.
17. Гэты англамоўны выканаўца быў абураны, што існуе меркаванне, нібыта ў англійскай мове няма рыфмаў да слова «апельсін», і тут жа падчас інтэрв'ю прывёў некалькі рыфмаў да гэтага слова.
19. Які не ўжываў спіртнога.
21. У тэхніцы – кантрольна-вымяральны інструмент у выглядзе металічнай пласцінкі з фігурным выразам для праверкі вырабаў крывалінейнага профілю.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Жанчына, якая не выйшла замуж пасля смерці мужа.
4. Падман, ашуканства.
5. Момант, істотныя абставіны ў якім-небудзь працэсе, з'яве.
6. Матэрыя, рэчыва, што так ці інакш абмежаваныя ў прасторы; асобны прадмет у прасторы.
7. Сумеснае пасяджэнне членаў арганізацыі, калектыву.
8. Вынік здабычы рыбы.
11. Унутраны лагічны змест, які спасцігаецца розумам; значэнне.
12. Загад замаўчаць, спыніць шум.
13. Неадчэпны, назойлівы страх.
15. Узаемная сувязь, залежнасць розных велічынь, прадметаў, з'яў.
18. На скачках у Прэторыі некаторы час пастаянна перамагаў адзін скакун. Так было, пакуль аднойчы яго не сфатаграфавалі з блізкай адлегласці. А на фота заўважылі, што гэта – ...
20. Імя сястры Максіма Танка, якую забілі разам з двухгадовым сынам партызаны ў час Другой сусветнай вайны. Пахаваная на Касцяневіцкіх могілках Вілейскага раёна.

## Адказы на крыжаванку з №6

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Дамейка. 4. Самакат. 5. Пераедзе. 6. Салют. 8. Люмен. 9. Лыжка. 12. Ачуняць. 15. Міцкевіч. 17. Дэпо. 18. Аўтар. 20. Атрад. 22. Лук. 25. Дэтэктыў. 27. Статуя. 28. Дзень.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Ахвота. 3. Лістапад. 4. Скальд. 7. Панчанка. 10. Лекцыя. 11. Херувім. 13. Ашукаць. 14. Сакрэт. 16. Дэндролаг. 19. Машэраў. 21. Колер. 23. Дэльта. 24. Кліент. 26. Шпалеры.

## ● ГАРАСКОП КАХАННЯ



**АВЕН.** Закахаўшыся, ён не стане хаваць сваіх пачуццяў або моўчкі пакутаваць, а стане дзейнічаць энергічна і без прамаруджання. Ён вельмі рамантычны, здольны натхнёна пераконваць, праяўляць непадробныя клопат і пяшчоту.



**ЦЯЛЕЦ.** Настроены на сур'ёзныя, трывалыя адносіны, а ў ідэале – на шлюб, які будзе доўжыцца ўсё жыццё. Звязаўшы жыццё шлюбнай сувяззю, Цялец будзе верным, надзейным і цалкам адданым сям'і.



**БЛІЗНЯТЫ.** У каханні Блізняты непрадказальныя і непастаянныя, як вецер. І ў рамантычных заляцаннях, і ў любоўных адносінах, і нават у шлюбе не прымаюць жорсткіх абавязацельстваў – прынамсі, у адносінах да сябе.



**РАК.** Рак сумяшчае пачуццёвасць і рамантызм з практычнасцю і рацыянальнасцю. Перш чым пачаць або прыняць заляцанні, ён можа доўга разважаць. Такая прадбачлівасць становіцца асновай для трывалых і сур'ёзных адносін.



**ЛЕЎ.** Каханне для Льва – сэнс усяго жыцця, ён проста не ўяўляе існавання без яго. Ільвы да кожнага новага рамана ставяцца шчыра і сур'ёзна, як да першага і апошняга ў сваім жыцці. Вось чаму яны могуць досыць рана ўступіць у першы шлюб і быць жанатыя або замужам шмат разоў.



**ДЗЕВА.** Каханне для Дзевы – працяглыя і ў першую чаргу партнёрскія, нават сяброўскія, адносіны. Ім патрэбны моцны саюз, у якім партнёры будуць па-сапраўднаму разумець і падтрымліваць адзін аднаго.



**ШАЛІ.** У любоўных адносінах чакаць ад Шаляў якой-небудзь пэўнасці цяжка: калі з партнёрам яны адчуваюць дыскамфорт, то могуць доўга не вырашацца на разрыў стасункаў. А калі знойшлі другую палавінку, могуць гэтак жа доўга цягнуць з прыняццем рашэння аб адносінах.



**СКАРПІЁН.** У выбары спадарожніка вельмі патрабавальны. Шукае такога партнёра, які мог бы падзяліць з ім усю паўнату бурных пачуццяў, а таксама мець адпаведны інтэлект, выразную жыццёвую пазіцыю і пачуццё гумару. Сустрэўшы ідэал, гатовы перакуліць свет, каб дамагчыся ўзаемнасці.



**СТРАЛЕЦ.** Незалежнасць – неад'емная рыса характару Стральца, якой ён да апошняга не гатовы паступіцца. Адчуўшы, што на яго свабоду замахваюцца, хутчэй за ўсё, збяжыць, не задумваючыся.



**КАЗЯРОГ.** Мімалётныя захапленні цікавяць мала: яго намеры сур'ёзныя і чакаюць працяглыя, трывалыя адносіны. Вось чаму Казярог так удумліва і грунтоўна падыходзіць да выбару партнёра. Ён можа доўга прыглядацца, перш чым вырашыцца адкрыць яму свае пачуцці.



**ВАДАЛЕЙ.** Для любоўных адносін шукае перш за ўсё надзейнага сябра, разам з якім яму будзе весела і цікава. Закахаўшыся, Вадалей здольны дзейнічаць эксцэнтрычна і непрадказальна. Зрэшты, за ўсімі дзіўнымі ўчынкамі стаіць не столькі запал, колькі жаданне зрабіць уражанне.



**РЫБЫ.** У каханні Рыбы плывуць па цячэнні. Яны наўрад ці самі зробяць вам насустрач першы крок, аддаючы перавагу толькі ўпотай марыць пра каханне і даверыцца лёсу.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | | 5 | | 4 | | |
| | 1 | | | 7 | | | 3 | 6 |
| | 2 | 9 | | | 1 | | | |
| 9 | | | | | 7 | 6 | 4 | |
| 2 | | | 5 | | | 8 | | |
| | 4 | | 9 | | | 3 | 1 | |
| | | | 4 | | 3 | | 8 | |
| | 8 | 3 | | | 2 | 5 | | |
| 7 | | | | | 5 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Рэгіянальная газета. Rh.by



# Фатограф заўважыў над Крэвам рэдкую прыродную з’яву. І сфатаграфаваў

СМАРГОНЬ

**У ноч з 6 на 7 лютага жыхар Крэва, фатограф Сяргей Гапон, заўважыў і сфатаграфаваў светлавыя слупы ў небе над мястэчкам.**



Светлавыя слупы над лютаўскім Крэвам.

Як паведамляе Вікіпедыя, светлавы або сонечны слуп – візуальная атмасферная з’ява, аптычны эфект, які ўяўляе сабой вертыкальную паласу святла, што цягнецца ад Сонца падчас яго заходу або ўзыходу (уначы назіраюцца таксама слупы ад Месяца, яркіх планет або ад наземных крыніц святла). З’ява выклікаецца адлюстраваннем святла на амаль гарызантальных плоскіх гранях шасцікутных плоскіх альбо слупападобных ледзяных крышталёў, узважаных у паветры. Часцей з’ява назіраецца ў халодную пару года.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Падрабязна расказваем пра падаходны падатак – хто павінен плаціць і як гэта зрабіць.**

## 13 лютага, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 6-7 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР’Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -22,4°С у 1994 годзе
Максімальная тэмпература +5,3°С у 1995 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,2 мм у 1991 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці цікавіцеся вы палітыкай?



**Ганна:**
– Так, цікаўлюся. Таму што хачу, каб наша краіна была свабодная, незалежная, каб нашым дзецям і ўнукам жылося добра.



**Святлана:**
– Палітыкай не цікаўлюся, таму што ў мяне іншыя праблемы. У мяне сын з асаблівасцямі, яго трэба вучыць, выводзіць у людзі, адаптаваць да жыцця. А палітыка, канешне, ідзе міма мяне. Нешта даходзіць, але каб быць інфармаванай, то не. Як яно ідзе, так і ідзе – без ацэнкі, без каментароў.



**Паліна:**
– Асабіста для мяне, як для дзяўчыны, гэта цяжка для ўспрымання і для разумення. Я не хачу свае мазгі і галаву забіваць нейкай цяжкай і складанай інфармацыяй. Там пастаянна здзелкі круцяцца, вось гэтыя ўсе нелегальныя, і хабары. Не хачу гэта ўсё ведаць.



**Сабіна:**
– У наш час вельмі важна цікавіцца палітыкай, таму што ад гэтага залежыць наша будучыня, будучыня моладзі.



**Аляксандр:**
– Цяпер проста нельга не цікавіцца палітыкай, таму што палітыка ў кожным з нас, яна ўсіх тычыцца.



**Канстанцін:**
– Цікаўлюся, бо само жыццё і ёсць палітыка.



**Галіна:**
– Не цікаўлюся, калі шчыра. Можа, толькі крыху, каб для сябе ведаць, што адбываецца ў свеце. А ўдзелу ў палітыцы прымаць не хачу.

**Аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб’ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№7 (1346) 12.02.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 240. Падпісана ў друк у 9.00 11.02.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.